

# Наша слова

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 42 (677) 27 КАСТРЫЧНІКА 2004 г.

## АТРЫМАНЫ ПЕРШЫЯ ВЫНІКІ КАМПАНІІ ТБМ ПА БЕЛАРУСІЗАЦЫІ АПЕРАТАРА МАБІЛЬНАЙ СУВЯЗІ "МТС"

Кіраўніцтва рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ) атрымала першыя вынікі кампаніі па беларусізацыі аднаго з аператараў мабільнай сувязі — сумеснага беларуска-расійскага ТАА "Мабільныя ТэлеСістэмы".

Нагадаем, што напрыканцы верасня гэтага года ТБМ сумесна з шэрагам маладзёжных арганізацый краіны пачала збор подпісаў сярод абанентаў МТС, якія прапаноўваюць кампаніі забяспечыць доступ да аўтаматычнай службы сэрвісу і інтэрнет-сістэм абслугоўвання абанентаў на дзяржаўнай беларускай мове.

Як паведаміў намеснік старшыні ТБМ Сяржук Кручкоў, 13 кастрычніка дырэктар па маркетынгу МТС Дзмітры Ліхута праінфармаваў кіраўніцтва аб'яднання аб тым, што спецыялістам кампаніі даручана стварыць беларускамоўны варыянт люстра сайта аператара мабільнай сувязі. "Акрамя таго, нам паведамілі аб пачатку распрацоўкі на беларускай мове гукавага сэрвісу кампаніі МТС", — сказаў С.Кручкоў. Паводле яго слоў, Д.Ліхута абяцаў у найбліжэйшы час накіраваць у адрас ТБМ афіцыйны адказ кіраўніцтва апаратара мабільнай сувязі на запыты грамадзян па беларусізацыі МТС. "У сваю чаргу мы нагадалі кіраўніцтву кампаніі аб тэрмінах адказаў на звароты грамадзян у адпаведнасці з заканадаўствам", — заключыў С.Кручкоў.

*Марат ГАРАВЫ.*

Mobile TeleSystems




Мобильные ТелеСистемы

Limited liability company
95 Skoriny Ave
Minsk
Reg. № 800013732
Acc. 3012008660016 with UC «Foreign Bank «Moscow-Minsk», code 272

Совместное общество с ограниченной ответственностью
пр. Ф. Скорины 95 220043, г. Минск
Тел./факс (017) 237 9800
ОКПО 37570318 УНН 800013732
р/с 3012008660016 в УП «Иностранный банк «Москва-Минск» код 272

20.10.2004 № 03-13/11611
па № ______ от ______

**ГА Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

**Намесніку міністра сувязі і інфарматызацыі Раку І. В.**

**Аб адказе на зварот грамадзян**

У сувязі з калектыўным зваротам грамадзян да СТАА "Мабільныя тэлесістэмы" з патрабаваннем забяспечыць доступ да аўтаматычнай службы сэрвісу абанента, інтэрнэт-сістэмы сэрвісу абанента, магчымасці атрымання SMS-паведамленняў на дзяржаўнай беларускай мове, паведамляем наступнае.

Згодна з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы. Дзеючае заканадаўства не змяшчае нормаў, згодна з якімі арганізацыі, дзеючыя ў сферы абслугоўвання абавязаны аказваць паслугі на дзвюх дзяржаўных мовах адначасова. Так згодна з артыкулам 13 Закона Рэспублікі Беларусь ад 26 студзеня 1990 г. № 3094-XI "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" на транспарце, у гандлі, у сферы медыцынскага і бытавога абслугоўвання ўжываюцца беларуская або руская мова, а пры неабходнасці - іншыя мовы. Заканадаўца ўсталяваў агульнае правіла, згодна якому арганізацыі сферы абслугоўвання самастойна вызначаюць, на якой з дзвюх дзяржаўных моў яны аказваюць паслугі. Зыходзячы з гэтага, СТАА "Мабільныя ТэлеСістэмы", выкарыстоўваючы пры аказанні паслуг рускую мову, дзейнічае ў межах заканадаўства і не парушае нормы, дадзеныя ў артыкуле 172-2 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях.

На выснове вышэйсказанага, патрабаванні, якія выказаны ў калектыўным звароце грамадзян, не базуюцца на норме заканадаўства.

Разам з тым, у мэтах рэалізацыі асноўных прынцыпаў, дадзеных у артыкулах 2 і 3 Закона Рэспублікі Беларусь ад 26 студзеня 1990 г. № 3094-XI "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", для забеспячэння ўсебаковага развіцця і функцыянавання беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, СТАА "Мабільныя ТэлеСістэмы" вырашыла правесці наступныя мерапрыемствы:

- стварэнне беларускамоўнай версіі афіцыйнага сайта кампаніі www.mts.by;
- вывучэнне магчымасці распрацоўкі аўтаматычнай службы сэрвісу абанента і інтэрнэт-сістэмы сэрвісу абанента на беларускай мове.

**З павагай**
**Генеральны дырэктар А. Б. Румянцаў.**

МВД РБ
19. 10. 2004 г.
№ 4-5771

**Председателю ОО "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Трусову О.А.**

**220034, г. Минск, ул. Румянцева д. 13**

На Ваш иск. № 225 от 09.09.2004 г. сообщаю, что 08.10.2004 г. Советским РУВД г. Минска возбуждено уголовное дело № 0401107-2719 по ч. 1 ст. 218 УК Республики Беларусь, по факту повреждения неустановленным лицом в период времени с 17 часов 04.09.2004 г. до 09 часов 40 минут 05.09.2004 г. памятника на могиле Я. Коласа, расположенной на территории кладбища «Военное» по ул. Козлова д. 12 в г. Минске.

**Начальник Советского РУВД**
**г. Минска Бессмертный С.Ф.**

# 2 лістапада - Дзяды



## Шаноўныя сябры.

**На Дзяды, 2 лістапада, будзе адкрыты помнік Васілю Быкаву.**

**Запрашаем вас узяць удзел у гэтай урачыстасці. Калі ласка вазьміце ліхтарыкі ці свечкі.**

**Падчас імпрэзы будзе праводзіцца збор ахвяраванняў на ўшанаванне памяці Вялікага Беларуса.**

**Пачатак а 17-й гадзіне на Усходніх могілках.**

**Аргкамітэт.**

## 25 кастрычніка – 140 Аляксандру Грачанінаву



Выдатны рускі кампазітар Аляксандр Ціханавіч Грачанінаў яшчэ з канца пазамінулага стагоддзя добра ведаў і захапляўся мелодыкай беларускіх народных песень, а ў 30-я гады мінулага веку, падчас знаходжання ў Парыжы з 1925 па 1939 гады, зрабіў на аснове прысланых яму Рыгорам Шырмам песенных фальклорных запісаў незраўнаныя да нашага часу па свайму мастацкаму ўзроўню апрацоўкі.

Нарадзіўся аўтар вядомай оперы "Дабрыня Мікітавіч" у 1864 годзе ў Маскве. Закончыў Маскоўскую (1890) і Пецярбургскую (1893, клас М. Рымскага-Корсакава) кансерваторыі.

У 1903 годзе пры Маскоўскім універсітэце была створана музычная секцыя Этнаграфічнага таварыства, на чале якога стаў прафесар Маскоўскага універсітэта, вядомы беларускі фалькларыст Мікалай Янчук, а віца-старшынём – Аляксандр Грачанінаў. "Працуючы ў гэтаў камісіі, - напіша ў 1934 годзе ў сваіх парыжскіх мемуарах "Маё музыкальнае жыццё" кампазітар, - я меў магчымасць пазнаць песні ўсіх народаў Расіі, з якіх асабліва палюбіў беларускія".

Аляксандр Грачанінаў адчуў своеасаблівасць ладава-інтанацыйнай будовы беларускага музычнага фальклору і зрабіў каля сарака апрацовак беларускіх народных песень, з якіх 17 для голасу і фартэпіяна і 11 для мяшанага хору пастаянна гучаць у сучаснай мастацкай практыцы.

На тэмы запісаў беларускіх народных песень Рыгора Шырмы ён напісаў у Парыжы "Беларускую рапсодыю" для сімфанічнага аркестра і п'есу для скрыпкі і фартэпіяна "Дар Белай Русі". Ён аўтар музыкі да п'есы В.Шашалевіча "Апраметная" (пастаноўка БДТ-2 1926 года).

У вялікай спадчыне Аляксандра Грачанінава 6 опер, 5 сімфоній, сімфанічная паэма 1943 года "Да перамогі", камерна-інструментальныя ансамблі, музыка да драматычных спектакля, больш за 100 рамансаў і цыклы хароў а капэла.





# ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

*Падрыхтавала Ірына Марачкіна*

**1998 год.**

**1 студзеня.**
Рашэннем сакратарыяту ТБМ спыніла гаспадарчую дзейнасць. Прададзены шапік.

**13 студзеня.**
Адбылося чарговае паседжанне сакратарыяту Рэспубліканскай рады ТБМ, на якім быў зацверджаны тэкст звароту да рэктараў ВНУ Беларусі аб стане беларускамоўнай адукацыі.

**Студзень.**
Гарадзенская абласная арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада" перадала рэдакцыі "Нашага слова" камп'ютар.

**13 лютага.**
Кастрычніцкая рада ТБМ сумесна з радай БНФ правялі ў 110-й СШ г. Менска вечарыну для старэйшых класаў з удзелам прафесара Анатоля Грыцкевіча, прысвечаную 160-й гадавіне з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага і 135-й гадавіне паўстання 1863 г. на Беларусі.

**21 сакавіка.**
Сакратарыят ТБМ разам з іншымі грамадскімі арганізацыямі і партыямі ладзілі пікет у мікрараёне "Серабранка", у Менску. Пікет прысвечаны 80-м угодкам БНР. Бясплатна раздавалі газеты "Наша слова" і "Рабочы".

Сакратарыят ТБМ і арганізацыя АГП Ленінскага раёна г. Менска з дазволу ўладаў наладзілі пікет з мэтай прыцягнення ўвагі грамадскасці да святкавання 80-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі.

Сакратарыят ТБМ, занепакоены знікненнем беларускіх школ і беларускай мовы з ВНУ, разаслаў адмысловыя лісты рэктарам усіх ВНУ Беларусі з просьбай аказаць на 12 пытанняў, звязаных з выкарыстаннем беларускай мовы дзеля аналізу сітуацыі ды інфармавання праз СМІ.

**16 красавіка.**
Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Лідскай арганізацыі ТБМ. (Дагэтуль дзейнічала Лідская гарадская арганізацыя ТБМ і асобныя суполкі ў раёне). Старшынём абраны Лявон Анацка. Рада у складзе 10 чалавек. Акрэслена задача арганізацыі — барацьба за беларускамоўныя першыя класы.

**Красавік.**
"Наша слова" (№ 15) паведамляе, што ТБМ атрымала судовую пастанову, паводле якой павінна заплаціць за арэнду памяшкання 71.163.000 рублёў. Такая запазычанасць склалася ў выніку драконаўскай максімальнай платы за арэнду — 10 даляраў за квадратны метр.

У Гарадзенскім універсітэце імя Янкі Купалы адбылася прэзентацыя новай кнігі доктара філалагічных навук, сябра ТБМ Паўла Сцяцко "Праблемы нормы, культуры, мовы".

**6 траўня.**
"Наша слова" (№ 17) паведаміла, што Пракуратура Партызанскага раёна г. Менска накіравала ў гаспадарчы суд Менскай вобласці зысковую заяву ў інтарэсах ЖРЭА Партызанскага раёна аб высяленні ТБМ з памяшкання па вул. Румянцава, 13. Прычына — запазычанасць па арэндзе ў суме 240 мільёнаў рублёў. У зысковай заяве гэтыя 240 млн. руб. ператварыліся ўжо ў 840 млн. руб., з улікам пені, інфляцыі і штрафаў.

ТБМ выказвае пратэст супраць чарговай хвалі ўціску і заклікае дэмакратычныя арганізацыі падаць свой голас у абарону ТБМ.

**13 траўня.**
Менскі абласны гаспадарчы суд разгледзеў справу па зыску ЖРЭА Партызанскага раёна да ТБМ імя Ф. Скарыны аб запазычанасці па арэнднай плаце за сядзібу на вул. Румянцава, 13. Прысуд: на працягу 2-х тыдняў ТБМ павінна вызваліць памяшканне, а таксама выплаціць на карысць ЖРЭА Партызанскага раёна 540 мільёнаў рублёў з адтэрміноўкай на пяць месяцаў.

"Наша слова" (№ 18) паведамляе, што суд па высяленні ТБМ з памяшкання па вул. Румянцава, 13 перанесены на 11 гадзін 13 траўня.

**6 чэрвеня.**
Адбылося паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ па пытанні стану беларускамоўнай адукацыі ў ВНУ Беларусі. У прынятай пастанове Рада канстатуе ўзмацненне русіфікатарскай палітыкі ў сферы вышэйшай адукацыі і звяртаецца да Міністэрства адукацыі з шэрагам канкрэтных прапаноў. Акрэслены задачы, якія стаяць перад сакратарыятам і ўсімі суполкамі.

На паседжанні Рэспубліканскай рады ТБМ разглядалася пытанне пра месца беларускай мовы ў ВНУ, пра стварэнне Беларускага нацыянальнага універсітэта. Прынята адпаведная пастанова. Рада прызначыла рэдактарам "Нашага слова" Станіслава Судніка.

**25-26 чэрвеня.**
З сядзібы па вул. Румянцава, 13 высялялі ТБМ, хоць рашэнне суда было абскарджана, і разгляд скаргі яшчэ не адбыўся, а таксама нягледзячы на тое, што 23 чэрвеня камісія Менскага гарвыканкаму пастанавіла прымяніць да ТБМ ільготы і арэндная плата замест 10 даляраў за кв. метр стала ўсяго 1 даляр.

**23 ліпеня.**
У Менску прайшло нечарговае паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ. Унесены змены ў Статут ТБМ па пытанні адмовы ад камерцыйнай дзейнасці. Прыняты зварот да Прэзідэнта Акадэміі навук сп. А. Вайтовіча з патрабаваннем вярнуць беларускую мову, як прадмет, у аспірантуру.

Створана суполка на Беларускім металургічным заводзе ў Жлобіне.

**24 жніўня.**
Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістравала змены ў Статуце ТБМ, прынятыя на Рэспубліканскай радзе 23 ліпеня.

**1 верасня.**
ТБМ наладзіла пікет у абарону беларускай мовы ў Ленінградскім завулку ў Менску.

**4 верасня.**
Каля станцыі метро "Аўтазаводская" рада ТБМ Заводскага раёна г. Менска наладзіла пікет у абарону беларускай мовы, запіс у ТБМ і падпіску на "Наша слова".

**16 верасня.**
ТБМ і моладзевае грамадскае аб'яднанне "Хлоя" гербу "Пац" наладзілі мітынг з мэтай падтрымкі беларускамоўнай адукацыі і стварэння Беларускага Нацыянальнага Універсітэта. Прынята рэзалюцыя з патрабаваннем спыніць перавод школ на расейскую мову, зварот да старшыні Саўміна Сяргея Лінга і міністра адукацыі Васіля Стражава з патрабаваннем Беларускага Нацыянальнага Універсітэта, зварот да грамадзян аб становішчы беларускай мовы. Зачытана заява сакратарыяту ТБМ у падтрымку газеты "Наша Ніва".

**25 верасня.**
Заводская Рада ТБМ Менска і сябры суполак Ленінскага раёна правялі каля станцыі метро Партызанская пікет у падтрымку беларускамоўнай адукацыі з мэтай абароны беларускіх школ і класаў. Падчас пікету ў ТБМ запісаліся 7 чалавек, распаўсюджана 100 асобнікаў "Нашага слова".

**15 кастрычніка.**
На канферэнцыі Рады ТБМ і Рады БНФ імя Т. Касцюшкі Кастрычніцкага раёна Менска прынятая заява "Аб сучасным стане беларускай мовы як падмурка нацыянальнай культуры", адзін з пунктаў якой гучыць так: "Папярэджваем грамадзяніна Лукашэнку і ўсіх без выключэння, хто з ім супрацоўнічае, што этнацыд беларускай нацыі ––злачынства, якое не мае тэрміну даўнасці".

*(Працяг у наступным нумары.)*



Транспартнае камунальнае унітарнае прадпрыемства «МІНСКТРАНС» ФІЛІЯЛ «МІНСКІ АЎТАВАКЗАЛ»
220114, г. Мінск, вул. Філімонава, 63
тэл. 219-36-27 факс 219-36-60
Р/р 3012018040019 у ААТ «Белпрамбудбанк»
Кастрычніцкае аддзяленне г. Мінска, код 357
УНП 102299325 АКПА 37628940

Транспортное коммунальное унитарное предприятие «МИНСКТРАНС» ФИЛИАЛ «МИНСКИЙ АВТОВОКЗАЛ»
220114, г. Минск, ул. Филимонова, 63
тел. 219-36-27 факс 219-36-60
Р/с 3012018040019 в ОАО «Белпромстройбанк»
Октябрьское отделение г. Минска, код 357
УНН 102299325 ОКПО 37628940

от «11» 10 2004 № 8.01-14/1325
на № ____ от ____

Чайковскому П.
ул. Брикета, 11-58
вёс. Кунцаўшчына,
Минский р-н

Ваше письмо руководством филиала «Минский автовокзал» рассмотрено.

Сообщаем Вам, что с 7.10.2004 г. информация до сведения пассажиров по громкоговорящей связи доводится, как на белорусском, так и на русском языках.

**Директор – С.М. Ясинский.**

*Дарожныя нататкі – зацёсы Міхася Тычыны*

# Вось такія мы ёсць...

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

А заехала цяпер сюды на лячэнне і адпачынак 180 ветэранаў вайны і працы, інвалідаў, былых афганцаў, калі я стаў прыслухвацца, на якой мове яны размаўляюць, то зразумеў, што мае высілкі супраць суцэльнага абрусення тапанімікі медустановы будуць ацэньвацца як гэткае донкіхоцтва, бо літаральна усе яны (за рэдкім выключэннем) размаўлялі па-руску або на так знаёмай расейскамоўнай "трасянцы" - нават у прыехаўшых з аддаленых палескіх раёнаў дзядуль і бабуль. Праўда, суседка за абедзеным сталом, пенсіянерка з пад Маларыты, парадавала усіх нас сакавітай беларуска-украінскай "трасянкай", а яшчэ - наборам смешных анекдотаў на сямейна-бытавыя тэмы.

Завітаў у паштовае аддзяленне, што месціцца ў падвальнай частцы галоўнага корпуса. Жанчына - паштарка якраз раскладала на стале кіпы газет, пераважна дзяржаўных - асобнікаў восем-дзесяць "Советской Белоруссии", яркія выданні з наборам крыжаванак. І толькі два асобнікі незалежнай газеты "Народная воля" Чаму так мала? - пацікавіўся я ў паштаркі. Адказала, што і гэтыя не заўсёды раскупляюць - як і іншыя нават дзяржаўныя выданні, ёй даводзіцца штомесячна спісваць тое, што застаецца. Адзін асобнік "Народнай волі" узяў я, другі настаўніца са Слуцка. Прачытаўшы, мы перадавалі іх суседзям па палаце, абедзеным стале, проста новым знаёмым з ліку адпачываўцаў. Ад некаторых з іх потым чуў заўвагі: "Вот не ведал, что есць такая інтересная газета". Вядома ж, дома яны яе не выпісваюць і не купляюць, адны таму, што не знаёмая з ёю, другія - пабойваюцца, каб хтосьці з суседзяў па лесвічнай пляцоўцы не назваў "бэнэфаўцам" - такое здараецца ў глыбінцы.

Наведаўшы санаторную бібліятэку, у якой сабрана звыш шасці тысяч кніг, мяне не вельмі здзівіла прызнанне мілай, ветлівай з наведвальнікамі бібліятэкаркі Вольгі Моніч, што ў адпачываўцаў попыт на беларускія кнігі застаецца нязменным не болей двух-трох чалавек у заезд. Так было і цяпер: за 21 дзень знаходжання ў санаторыі творы Быкава, Пташнікава, Алексіевіч запрасілі толькі тры чалавекі - настаўнік з Крупак, жанчына з Менска і аўтар гэтых радкоў. Між тых беларускімі кнігамі запоўнены шэсць паліцаў - па 80 на кожнай. Стаіць некранутым (1971 года выдання) дзесяцітомнік Янкі Купалы (!), рэдка хто цікавіцца творамі такіх вядомых майстроў прозы, як Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Алесь Жук, Генрых Далідовіч, праўда, іх кнігі выдадзены яшчэ ў савецкія часы.

На пытанне, што ж чыталі тыя 83 наведвальнікі бібліятэкі (з 180 заехаўшых у санаторый), Вольга Міхайлаўна з сумнай усмешкай на твары адказала:

- Бяруць фантастыку, дэтэктывы, любоўня перакладныя аповесці апошніх гадоў, зрэдку - кнігі з серыі выдання "Жыццё славутых людзей". На прапанову ўзяць творы нашых пісьменнікаў, большасць чытачоў адказвае: "Я забыл уже белорусский язык".

Калісьці бібліятэка атрымлівала па падпісцы часопісы "Полымя" "Маладосць", "Нёман", а цяпер засталіся асобныя экземпляры іх выдання 1999-2001 гадоў, ды і то не ўсе. І хоць бібліятэкарка дала ў пачатку года заяўку на выдзяленне ёй кніг на суму 5 мільёнаў рублёў, да верасня месяца не атрымала ні на рубель - хтосьці у сталічных "вярхах" не надта зацікаўлены у тым, каб сюды трапілі апошнія творы Быкава, Гілевіча, Брыля, Законнікава, Барадуліна, Бураўкіна і іншых вядомых празаікаў і паэтаў. Што і казаць - большыня людзей, што прыязджае сюды па сабесаўскіх скіраваннях, з таго пакалення, якое нарадзілася ў вёсцы і, стаўшы на ногі пасля школы, дало цягу ў гарады, далей ад прымуспрацы за нішчымны працадзень у калгасе.

А замацаваўшыся, хто як змог на гарадскіх абшарах, яны, цяпер ужо ветэраны, у большасці сваёй забылі не толькі матчыну мову, але і нацыянальную культуру, багатую гістарычную спадчыну Беларусі. Тым не менш, калі культмасавік санаторыя зладзіла ў танцзале канцэрт з удзелам саміх адпачываўцаў, "артысты" знайшліся, але спяваць яны пачалі песні расейскія ці колішнія савецкія пасляваеннай пары, вершы чытаць - таксама, пакуль нехта з пенсіянераў, так званых "заходнікаў", не гукнуў: "Давайце нашу, "Касіў Ясь канюшыну"! Пад баян яе, на дзіва, надхапіла чалавек дваццаць. А затым вясёлая і ўвішная ў чытанні гумарных вершаў былая работніца гарадзенскай абутковай фабрыкі Ірына Міхайлаўна Дзергачова з дзвюма сяброўкамі-землячкамі пад баян натхнёна выканалі нашу народную песню "Каля млына, каля млына, расцвіла каліна", якую ў зале ніхто не падтрымаў, бо не ведалі слоў. І праграма канцэрту, які пазней у зале кінатэатра са сцэны далі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці з ліку работнікаў, санаторыя, была пераважна расейскамоўнай, гучалі песні 40-50 гадоў, зрэдку "разбаўленыя" парай-другой беларускамоўных вершаў і баек. Толькі пасля таго, як нехта з сядзеўшых у зале падаў вядоўцы праграмы канцэрту заяўку з просьбай выканаць хоць некалькі "нашаскіх" песень, з вуснаў маладзенькай дзяўчыны прагучала "Жураўлі на Палессе ляцяць". І бадай усё. Пасля канцэрту даведаўся ад аднаго адпачываўца, што ён гэтую праграму канцэрту чуў два гады таму. А ужо пара б абнавіць, напоўніць беларускім духам - сугучным працэсу Адраджэння нацыі і краіны.

...Перад ад'ездам дамоў я пакінуў у рэгістратуры санаторыя пісьмовы водгук у спецыяльнай кнізе, падзякаваў урачам, медсёстрам і санітаркам, работнікам сталовай за ўсё тое добрае, чым адорваюць яны ветэранаў. І заадно папрасіў у тым запісе галоўнага ўрача санаторыя паклапаціцца аб замене шыльды, што "глядзіцца" з бетоннай агароджы побач з прахадной у лячэбніцу, з рускай на беларускую мову -- каб кожны, хто прыязджае сюды на адпачынак і лячэнне, не забываў, што знаходзіцца ў цэнтры незалежнай Беларусі, а не дзе-небудзь у расейскай правінцыі.

*Міхась Тычына, г. Слуцк.*



# Беларуская Джаконда ў Оршы або *Дыялог з гледачом*

15 кастрычніка ў гарадской выставачнай зале, што ў Оршы, мясцовая інтэлігенцыя вітала мастакоў з Менска Аляксея і Ігара Марачкіных – бацьку і сына, — якія рэпрэзентавалі свае жывапісныя палотны, усяго каля 50 карцін. Гэта працы розных гадоў: ад студэнцкіх да сённяшніх, ад рэалістычных да абстрактных. Творы мастакоў двух пакаленняў. Яны разнастайныя па сваіх жанрах, рознастылёвыя.

ГАРАДСКАЯ ВЫСТАВАЧНАЯ ЗАЛА вул.Леніна 18 Орша
Дыялог
Ігар і Аляксей Марачкіны
жывапіс
Выстава працуе з 15кастрычніка па 1лістапада 2004г.

Экспазіцыя адкрываецца раннімі рэалістычнымі карцінамі сп. Аляксея, сярод якіх эцюд "Зімка", напісаны 30 гадоў таму, і студэнцкая вучэбная пастаноўка "Жанчына ў нацыянальным строі". Апошняя ў часе і прасторы перагукаецца з партрэтам дзяўчыны, створаным мастаком у гэтым годзе. Мастак назваў свой твор "Беларуская Джаконда". Назоў гэты невыпадковы: сёлета спаўняецца 500 гадоў ад часу напісання Леанардам да Вінчы знакамітай "Джаконды". Беларуская Джаконда, створаная Аляксеем, гэта не замах на вялікага творцу ці спроба паставіць свой твор у поравень з партрэтам, які перажыў стагоддзі і да сённяшняга часу хвалюе сваёй таямнічай усмешкай. Ва ўсім свеце мастакі спрабуюць паказаць веліч і таямнічасць жанчыны праз яе вочы і ўсмешку. І твор знакамітага італьянца натхняе і будзе натхняць яшчэ не адно пакаленне мастакоў.

Выстава паказвае творцу ў развіцці, ілюструе пошук ім новых выяўленчых формаў. Гледачам спадабаліся шмат якія творы. Асабліва да душы прыйшоўся нацюрморт "Настальгія", дзе кожны пазнаў хатнія прадметы сялянскага ўжытку, знаёмыя з дзяцінства.

Творы сына як бы завяршаюць экспазіцыю. Яны сугучныя нашаму часу і трапляюць у стылістыку палотнаў бацькі апошніх гадоў. Нават у зімовых краявідах маладзейшага Марачкіна глядач адчувае шмат цяпла, святла і любові да сваёй зямлі. Але, як слушна заўважыў адзін з гледачоў, шэрагу карцін сына ўласцівая трывожная каляровая гама. І гэта зразумела, бо жыццё складаецца не толькі з радасцяў. Яно – разнастайнае, часам драматычнае, і кожны дзень мае непаўторныя адценні.

Пра свае сімпатыі да твораў гледачы выказваліся як пры адкрыцці выставы, так і ў гутарках непасрэдна каля палотнаў. Гэта быў нязмушаны цёплы дыялог з прыхільнікамі таленту мастакоў, дыялог між сабою і з самімі сабой, што цалкам адпавядае назве экспазіцыі. У сваім падзячным слове да прысутных Аляксей і Ігар Марачкіны зазначалі, што з слаўным местам Орша звязана шмат старонак нашай гісторыі і культуры, а перадусім з імем Уладзіміра Караткевіча, якое сёння лучыць людзей розных поглядаў і пакаленняў. Прыемна, што руплівыя Аршаншчыны стварылі тут культурніцкі асяродак. Мастакі выказалі сваю ўдзячнасць арганізатарам выставы: дырэктару музейнага комплексу гісторыі і культуры Аршаншчыны Уладзіміру Кузубаву і загадчыку музея гісторыі і культуры, гарадской выставачнай залы Віктару Лютынскаму за магчымасць паказаць свае творы.



*Панадворак. Карціна з выставы.*

Натуральна, мастакі наведалі музей Уладзіміра Караткевіча, дзе з кіраўніцтвам гэтай установы ішла гаворка пра арганізацыю ў 2005 годзе выставы твораў беларускіх майстроў пэндзля, прысвечанай 75-годдзю з дня нараджэння вялікага земляка.

***ІрМа.***

# Мар'яну Пецюкевічу - 100 год

24 верасня споўнілася сто год Мар'яну Пецюкевічу-вучонаму, этнографу, жыццё і дзейнасць якога цесна звязаны з Вільняй.

Надардзіўся М. Пецюкевіч у вёсцы Цяцеркі (цяпер Браслаўскі р-н, Віцебская вобласць).

З нараджэннем чалавека нараджаецца і яго час. Кожны свае перыяды ў жыцці пражывае па-рознаму (дзяцінства, маладосць, спелыя гады, старасць). У адных шчаслівае дзяцінства і спакойная старасць, у другіх – наадварот. Сям'я, у якой нарадзіўся М. Пецюкевіч была вялікай, прыйшлося паспытаць цяжкай сялянскай працы з рання да змяркання... І першыя прыступы асветы ён атрымаў у бацькоўскай хаце ад цёткі Паўліны, старэйшай бацькавай сястры, якая жыла разам. Яна хацела каб Мар'ян стаў ксяндзом, ці хоць арганістам. Але лёсам было наканавана іншае. Да 1921 году ўключна хлопец саматужна вучыўся без дапамогі настаўнікаў і школьных падручнікаў. Бацькі пастанавілі вучыць хлопцаў рамяству, каб забяспечыць матэрыяльную будучыню. З гэтай навукі ў М. Пецюкевіча нічога не атрымалася. Па рэкамендацыі дзеда Марціна, які вучыў кавальскаму рамяству, аддалі Мар'яна ў вёску Ёды, да кіраўніка школы, ён прыватна вучыў чытаць і пісаць папольску, каб паступіць у польскую гімназію у Дзісне. "Абрэзалі" на ўступных экзаменах. Даведаўшыся аб "няўдачах" хлопца ксёндз Віктар Шутовіч – сведамы беларус і атыўны дзеяч, выклікаў бацьку і параіў накіраваць у Віленскую беларускую гімназію.

Дзякуючы ксяндзу В. Шутовічу, да якога часта прыязджаў ксёндз Адам Станкевіч, Мар'ян меў магчымасць пазычаць беларускія кнігі; таму не быў прафанам у беларускім пісьменстве і нацыянальных праблемах. Менавіта ксяндзамі кінутыя ў час "зерні" маладому "парастку" далі добрыя ўсходы. З такой падрыхтоўкай М. Пецюкевіч прыехаў у 1922-1923 годзе ў Вільню, здаў уступныя экзамены ў IУ клас ВБГ, дзе скончыў 7 класаў у 1926 г. З-за рэформы гімназія 8 класа не мела, каб атрымаць атэстат ён паехаў у Радашкаўскую беларускую гімназію. Як Віленская Б Г, так і Радашкаўская "не мела дзяржаўнага права" таму выпускнікі не маглі вучыцца ў польскіх ВНУ. І, каб атрымаць вышэйшую адукацыю, выпускнікі беларускіх сярэдніх школ нелегальна адпраўляліся за мяжу, пераважна ў Чэхаславакію. Мар'ян быў прыняты ў Карлаўскі універсітэт на гуманітарны факультэт. Але не пашэнціла перабрацца праз польска-чэхаславацкую мяжу. Падрыхтаваўшыся прыватна, Мар'ян здаў экзамен на атэстат сталасці пры Дзяржаўнай камісіі Віленскай Школьнай Кураторыі. Такі атэстат даваў права паступіць у Віленскі універсітэт на гуманістычны факультэт, дзе Мар'ян вывучаў, як галоўныя прадметы этнаграфію з этналогіяй, так і пабочныя – археалогію і славянсую філалогію. У 1930 годзе атрымаў дыплом магістра філасофіі. Каб мець матэрыяльныя сродкі з 1930 года Мар'ян Пецюкевіч працуе ў бібліятэцы інстытута Ўсходняй Еўропы, а праз пару гадоў – у бібліятэцы імя Урублеўскіх (цяпер бібліятэка Акадэміі навук Літвы).

Праз усе гады пражывання ў Вільні, пачынаючы з вучобы ў ВБГ, дырэктарам якой быў Бр. Тарашкевіч, а беларускую літаратуру выкладаў М. Гарэцкі, пазней – А. Луцкевіч, М. Пецюкевіч актыўна ўдзельнічаў у нацыянальна-адраджэнцкай працы. У ВБГ ён сфармаваўся як беларускі патрыёт канчаткова ўсвядоміў, хто ён ёсць і выбраў свой жыццёвы шлях –працу на карысць Беларусі і беларускай культуры. З 1930 па 1935 год быў адказным рэдактарам часопіса "Шлях Моладзі". У 30-я гады ў Вільні М. Пецюкевіч пачаў актыўна друкавацца ў часопісах "Калосьсе", "Шлях Моладзі", у газеце "Сялянская Ніва".

17 верасня Вільню заняла Чырвоная Армія. Пачаліся арышты, былі арыштаваны А. Луцкевіч, А. Уласаў, Я. Пазьняк і іншыя.

29 кастрычніка 1939 г. М. Пецюкевіч быў прызначаны Прэзідэнтам Акадэміі навук Літвы на пасаду дырэктара Беларускага музея імя Івана Луцкевіча, які ў той час атрымаў назву "Музей № 1 АН Літвы", працаваў у гэтым музеі да нападу гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз.

У 30-40 гады была знішчана амаль уся беларуская інтэлігенцыя. М. Пецюкевіч з сям'ёй, як сацыяльна небяспечны элемент быў выселены, спачатку ў Краснаярскі край, потым – у Варкуту, але ён і там займаўся беларускай справай, у такіх неспрыяльных умовах. У канцы 80-х гадоў XX стагоддзя, калі ў Вільні зноў пачаўся беларускі адраджэнцкі рух, першай у Таварыстве Беларускай культуры выйшла кніга М. Пецюкевіча "У пошуках зачараваных скарбаў", у якой ён піша пра ВБГ і яе настаўнікаў. Адбыліся сустрэчы з Я. Шутовічам, Я. Багдановічам, якія разам з М. Пецюкевічам працавалі ў міжваенны перыяд у Вільні. Другая кніжка, якая выйшла ў ТБК "Трагічныя ніткі лёсу беларускага патрыёта", архіўныя матэрыялы допытаў у НКУС. Справа Мар'яна Пецюкевіча працягваецца, у 1999-2000 ТБК наведала яго дачка Марыля, якая жыве ў Італіі, захоўвае памяць пра бацьку. Гэта пра яе Ул. Пецюкевіч пісаў у трыялеце: "Маці-Беларусі верная дачка, апякуешся ты спадчынай бацькоўскай..." У ТБК дзейнічае выстава кніг М. Пецюкевіча, фотаздымкі з архіва Ул. Пецюкевіча (пляменніка М. Пецюкевіча"), у беларускай школе імя Ф. Скарыны ў Вільні прайшоў урок "Мар'ян Пецюкевіч і Вільня", старшыня ТБК Хв. Нюнька з гэтай нагоды наведаў Маладэчна, падараваў кнігі. Усе згаданыя кнігі ёсць у бібліятэцы ТБМ імя Фр. Скарыны ў Менску. Памяць аб М. Пецюкевічу жыве, даследчыцкая праца працягваецца.

***Леакадзія Мілаш,***
***г. Вільня.***

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Леанід Лыч – 5000 р., г. Менск.
2. Вечарына "15 год ТБМ" – 9825 р.
3. Фурс А.В. – 5000 р., г. Паставы.
4. Лявон Анацка – 10000 р., г. Ліда.
5. Кафедра рэжысуры абрадаў і свят ВДУК – 16260 р., г. Менск.
6. Шкірманкоў Фелікс – 10000 р., г. Слаўгарад.
7. Сафро Марыя – 5000 р., г. Масква.
8. Патрулевіч В. – 15000 р., г. Менск.
9. Натынчык Уладз. – 20000 р., г. Выбарг, Расія.
10. Антон Бубала – 10000 р., г. Верхнедзвінск.
11. Петруковіч Васіль – 16000 р., г. Менск.
12. Казлоўская Іна – 2000 р., г. Менск.
13. Дзінгірэўскі В.В. – 4000 р., г. Салігорск.
14. Хацкевіч Ачатоль – 5000 р., г. Менск.
15. Валер Палсцюк – 5000 р., г. Менск.
16. Падгайскі А.В. – 50000 р., г. Баранавічы.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

Людміла Дзіцэвіч

# Ірландскі дзённік

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах)*

У касцёле пяюць толькі пеўчыя пад музыку аргана, які знаходзіцца збоку алтара. Побач сядзяць спевакі. Пяюць няшмат: 2-3 песні (імша доўжыцца 40 хвілін). Святар апрануты ў белае адзенне з зялёнай накідкай. Крыж на зялёным — белага колеру. Яму дапамагаюць дзеці ў белым адзенні.

**Адпачынак.**

Ірландцы любяць футбол. Гэта найлепшы занятак для баўлення часу. У футбол гуляюць, яго глядзяць па ТБ, пра яго пішуць, спрачаюцца, сняць. Яго вялікасць футбол любяць мужчыны і жанчыны, вялікія і малыя. У Дублін, калі там адбываецца матч, не праехаць. Уся дарога занятая машынамі. У кожным горадзе, гарадку і вёсцы ёсць футбольны клуб. Спецыяльна для футбольных матчаў у крамах прадаюцца шматлікія атрыбуты колеру графства. У кілбэгэнскіх крамах прадаюцца майкі, паяскі, сцяжкі, шалікі, шапкі бардова-белага колеру — сімвал графства Вестміт.

Акрамя гэтага, ірландцы любяць іншыя віды спорту — гольф, тэніс, ровар, захапляюцца рыбалоўствам, паляваннем. Любяць пасядзець пад тэлевізарам дома, у кавярні выпіць 5-10 куфляў піва, пагойсаць у машыне па крамах. Часам падарожнічаюць, але найбольш любяць сваё — Атлантычны акіян і прыбярэжныя гарадкі. І адпачываць едуць на сваё ўзбярэжжа.

*(Працяг у наст. нум.)*



*Л. Дзіцэвіч у кнігарні, дзе толькі дзве кніжкі на гэльскай (ірландскай) мове*



*Л. Дзіцэвіч з Шонам Крэгам і яго жонкай Шывон у бары Кілбэгена*

***Рэдакцыя газеты "Наша слова" выказвае спачуванні родным і блізкім журналісткі газеты "Салідарнасць" Веранікі Чаркасавай з прычыны яе трагічнай смерці. Мы маем спадзяванні, што забойца будзе знойдзены і пакараны.***

*Станіслаў Суднік*

# З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ ПА ЖЫЦЦІ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Той, хто служыў у войску, ведае абравіятуру ПГД (Паркава-гаспадарчы дзень). Вось як выглядаў ПГД ў 1-м аддзеле. Два салдаты рэзалі паперу з рулона. Ібраім Сейтасманаў маляваў. Ён маляваў навучальныя дапаможнікі для беларускай школы (зрабіў копіі гравюраў з выявамі Ф. Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага і інш.), зрабіў карыкатуры і малюнкі для "Рокаша". Хтосьці сядзеў на наборы. Хтосьці друкаваў канверты. Вядома, што вяліся і іншыя работы.

Як ужо гаварылася, у нас не тое што не было сканера, мы не ведалі пра яго існаванне наогул, хаця радыётэхнічныя сканеры, безумоўна, былі, але гэта зусім іншая тэхніка. Таму малюнкі для "Рокаша" рабіліся наступным чынам: задавалася тэма, Сейтасманаў рабіў малюнак на паперы, потым пераносіў яго на кальку. Калька накладвалася на экран манітора, і нехта з набошчыкаў у графічным рэдактары пераносіў малюнак у памяць кампутара, пасля чаго яго можна было друкаваць. Малюнкі тэхнічна былі даволі прымітыўныя, але яны былі.

Былі адпаведныя цяжкасці і з размнажэннем. У службовы час кампутары былі занятыя. Газету, як правіла, друкавалі ноччу. Самі па сабе начныя работы ў войску не рэдкасць, але не друк газеты. Кожны дзяжурны па частцы лічыў сваім абавязкам зайсці ў памяшканне, дзе ёсць святло. Парадак. Таму салдатаў адных пакінуць было нельга, нельга было нават лейтэнанта прызначыць старшым. Старшым павінен быў быць талковы маёр, бо дзяжурны па частцы, як правіла, бываў у званні маёра, радзей капітана. Незаменным тут быў маёр Цвірка, які быў вельмі кантактным, і ахвотна арганізоўваў работы па размнажэнні газеты. Даводзілася сяды-тады пасылаць і іншых афіцэраў 1-га аддзела.

Як было сказана значная частка накладу пасылалася ў Беларусь і іншыя мясціны Савецкага Саюза і, нават, свету. Зусім выпадкова захавалася ведамасць рассылкі "Рокаша". Прывядзём яе ў спрошчаным выглядзе з указаннем прозвішчаў і колькасці адпраўленых нумароў:

**Чорны В. Д.** (Цвер, 15 нум.), **Міхноўскі М.** (Менск, 15), **Лецка Я.** (Менск, 15), **Цумараў Я.** (Менск, 14), **Акаловіч** (Менск, 13), **Казлоўскі** (13), **Жукоўскі** (13), **Кміт** (13), **Белы** (Менск, 14), **Навумовіч** (13), **Чарняўскі І.** (Менск, 14), **Міткавец А.** (Гомель, 13), **Троська К. К.** (Сейлавічы, 13), **ЛіМ** (14), **Крывальцэвіч** (11), **ТБМ інстытута літаратуры АН Беларусі** (11), **"Бацькаўшчына"** (Алма-Ата, 11), **Паўловіч** (14), **Гардзеенка** (14), **Белы** (Менск, 10), **Стэх В.** (8), **Кухта В.** (10), **Тарасевіч** (9), **Астаповіч** (Ваўкавыск, 11), **Палубятка Я.** (Масты, 9), **Мілаш Л.** (8), **Сасінскі** (9), **Жалкоўскі** (Ліда, 9), **Слабін** (10), **Афанассеў** (9), **Латоцін** (9), **Бараноўскі** (9), **Гайдук** (9), **Васілеўскі** (9), **Беймацеў** (9), **Харанэка** (10), **Шустоўскі** (9), **Адамчык** (9), **Квяткоўскі** (8), **Драздовіч** (8), **Хадыка** (8), **Сазановіч** (6), **Чыгрын** (8), **Цярохін** (9), **Мітэр** (9), **Місуко** (9), **Тулейка** (9), **Трубач** (8), **Бехцераў** (7), **Чыслаў** (7), **Статкевіч** (6), **Гучок** (6), **Дубовік** (Масква, 3), **Сіўчык** (Менск, 10), **Рэут** (6), **Запруднік** (2), **Каротчанка** (7), **Папоў** (7), **Цеханавецкі** (20), **Шушкевіч С.** (Менск, 7), **Барыс С.** (Менск, 9), **Несцяровіч** (8), **Паўлаў** (7), **Нікалаеў М.** (Пецярбург, 10), **Здзешчыц** (6), **"Наша слова"** (6), **"Свабода"** (Сабаленка, 2), **Скрыган** (6), **Белямук** (1), **Баркоўскі** (5), **Барбук** (5), **Запрудскі** (4), **Мальдзіс А.** (Менск, 5), **"Родны край"** (5), **Кулько** (5), **Стагановіч** (5), **Трыгубовіч** (3), **Арлоў У.** (Менск, 4), **"Пагоня"** (1), **Гаўрыловіч** (1), **Варанец** (4), **Нікулін** (2), **Белакоз** (Гудзевічы, 3), **Бязрукава Лена** (3), **Майсеня** (2), **Карлюкевіч** (2), **Саўчанка** (1).

Пэўна, што гэтая ведамасць не зусім дакладная, бо частка газет перадавалася і раздавалася падчас прыезду ў Менск, Маскву, Цвер, Алма-Ату, Сейлавічы і іншыя месцы, у прыватнасці падчас прыезду на 2-гі з'езд ТБМ у чэрвені 1991 года.

У чэрвені 1991 года я быў на сесіі ў акадэміі, і мы з палкоўнікам Чорным знайшлі магчымасць паехаць на з'езд. Я прадстаўляў Прыазёрск, а ён Цвер. За 13 гадоў з таго часу шмат чаго забылася, але ў "Рокашы" № 7 была надрукаваная нататка з таго з'езду, таму мэтазгодным будзе проста прывесці яе змест.

*(Працяг у наступным нумары.)*




*Карыкатура, змешчаная ў 7-м нумары "Рокаша", выкананая ў графічным рэдактары паводле малюнка Ібраіма Сейтасманава*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 25. 10. 2004 г. Замова № 1926.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1280 руб., 3 мес.- 3840руб.
***Кошт у розніцу:*** 290 руб. (у Менску - 310 руб.)